# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
САЮЗУ ССР.

**№ 12.**

ЦВК РНК РПА

АРТЫКУЛЫ
321—351.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ◊ 1923 ◊ Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

## ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
### РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
### САЮЗУ ССР

№ 12.

АРТЫКУЛЫ
321—351.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ◦ 1923 ◦ Крэмль.

# ЗЬМЕСТ.

# ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

## ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**321.** **Аб устанаўленьні для ліквідаваньня малапісьменнасьці асобнага збору з асобных патэнтаў на права продажы віннасьці, піва і табачных вырабаў.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Устанавіць спагнаньне для ліквідацыі малапісьменнасьці асобнага збору пры выдачы асобных патэнтаў на права агульнай або розьнічнай продажы віннасьці, піва і табачных вырабаў у наступнай вялічыні: 25% з цаны патэнту на права гандлю віннасьцю ці півам і 10% з цаны патэнту на права гандлю табачнымі вырабамі.

**2.** Парадак спагнаньня збору, паказанага у арт. 1-ым гэтае пастановы устанаўліваецца інструкцыяй народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР.

**3.** Гэту пастанову зьдзейсьніць з 1-га кастрычніку 1923 года.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні ЦВК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

14 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 288 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 16 сьнежня 1923 г.

---

**322.** **Аб льготах і перавагах служачых вайсковага і марскога ведамстваў, вызначаемых назначаемых і перавадзімых на службу у далёкія мясцовасьці Саюзу ССР.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Увесь камандны і прыраўнаваны да яго па разрадам тарыфнай сеткі адзінага вайсковага тарыфу палітычны і адміністратыўны склад чырвоных арміяў і флёту карыстаецца, пры вызначэньні, назначэньні і пераводу на службу у далёкія мясцовасьці (арт. 8), наступнымі льготамі і перавагамі:

а) пры вызначэньні, назначэньні і пераводзе на службу у далёкія мясцовасьці, а так сама пры назначэньні і пераводзе з аднэй далёкай мясцовасьці у другую, на адлегласьці у абодвух выпадках звыш 1000 вёрст, даюцца падарожныя выгады (сутачныя і пад'ёмныя) у падвойнай вялічыні проціў устаноўленых адпаведнымі загадамі Рэвалюцыйнага Вайсковага Савету ССР нормаў.

Увага 1. Асобам, назначаемым ў далёкія мясцовасьці у час вайны узвышаная падарожная выгада не даецца, тым жа з іх, якія, па сканчаньні вайсковых дзеяў, застануцца у далёкай мясцовасьці на пастаянай службе, азначаная выгада павінна быць адпушчана дадаткова да устанаўліваемых гэтаю пастановаю нормаў.

Увага 2. У асобна выключных выпадках выдача узвышанай падарожнай выгады можа быць дапушчана і пры перамяшчэньні з аднэй далёкай мясцовасьці у другую на адлегласьці, не дасягаючай 1000 вёрст, з дазваленьня паміжведамсьцьвенай нарады пры камандуючым войскамі акругі (фронту) у вайсковым ведамстве і з дазваленьня камандыраў марскіх партоў—у марскім ведамстве.

б) У працягу першых трох месяцаў службы у далёкай мясцовасьці пэнсія па штатных пасадах выплачваецца у падвойнай вялічыні;

в) пры звальненьні са службы па хваробе, калечаньню або за скарачэньнем штатаў асобам, азначаным у арт. 1-ым, знаходзячымся на службе у далёкіх мясцовасьцях, а так сама знаходзячымся пры іх і на іх апецы сябрам іх сямействаў даецца за кошт вайскова-марксога ведамству праезд да ўзноў выбранага месца жыхарства, пры чым правам гэтым паказаныя асобы могуць карыстацца толькі у працягу 3-х месяцаў з дня звальненьня са службы;

г) пры скарачэньні штатаў асобам, пераведзеным

або назначаным на службу у далёкія мясцовасьці, даецца пераважнае перад мясцовымі нараджэнцамі права на астаўленьне іх на займаемых пасадах.

д) у выпадку сьмерці асобаў, назначаных у п. „а“ арт. 1-га, у час службы у далёкай мясцовасьці знаходзячымся пры іх і на іх апецы сябрам іх сямействаў даецца права праезду да выбранага месца жыхарства і перавозкі маемасьці у вялічыні, устаноўленай арт. 2-ім пастановы Савету Працы і Абароны ад 28 верасьня 1923 г. („Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г. № 8, арт. 247), за кошт вайсковага ці марскога ведамству, прычым гэтым правам яны могуць карыстацца у працягу аднаго году з дня сьмерці вайскова-служачага.

2. Вайскова - марскія служачыя, камандыруемыя, перавадзімыя і назначаемыя на судны, знаходзячыяся у плаваньні у далёкіх водах Саюзу ССР і не прыпісаныя да партоў мясцовасьцяў, аднесеных да далёкіх, у выпадку знаходжаньня іх на гэтых суднах звыш шасьці месяцаў, атрымліваюць другія сутачныя грошы на ўсю дарогу аж да месца назначэньня.

3. Камандны склад, займаючы пасады камандыра узвода і вышэй, і належных яму разрадаў палітычны і адміністратыўны склад, а так сама камандыры адзяленьнеў і памочнікі камандыраў ўзводаў, скончыўшыя вайскова-навуковыя завядзеньні, апрача пералічаных у арт. 1-ым льготаў і перавагаў, карыстаюцца яшчэ і ніжэйнаступным:

а) за кожны год службы у далёкай мясцовасьці ім выдаецца адзіначасная узнагарада у вялічыні месячнай пэнсіі з разьлітку яго за папярэдні месяц;

Увага. Вайскова-служачым суднавага складу, карыстаючымся правамі і перавагамі, прысвоенымі служачым у далёкіх мясцовасьцях, але часова знаходзячымся на службе у мясцовасьцях, якія далёка адлеглымі не прызнаюцца, час знаходжаньня іх у гэтых апошніх з тэрміну, які дае права на адзіначасовую падмогу, выключаецца.

б) апрача таго, за кожныя тры гады службы у далёка адлеглай мясцовасьці выдаецца дадатковая адзіначасовая узнагарада ў вялічыні 2-х месячнага акладу пэнсіі з разьлітку яго на папярэдні месяц;

в) даецца пераважнае права на памяшчэньне дзяцей у вучэбныя завядзеньні;

г) даецца за кошт вайскова-марскога ведамству права на праезд дзяцей, якіх вучацца у другім месьце, да сканчаньня іх навучаньня, але ня больш аднаго разу у абодвы канцы у працягу году;

д) за кажныя пяць гадоў бязупыннай службы у далёка адлеглых мясцовасьцях даецца дадатковы 3-х месячны водпуск з захаваньнем утрыманьня, прычым у тэрмін водпуску ня ўходзіць час, неабходны дзеля праезду да месца адпачынку і назад. Асобам, часткаю ці поўнасьцю не скарыстаўшым водпуск выдаецца компэнсацыя памяркоўна працяженасьці нескарыстанага водпуску;

е) асобам, праслужыўшым у далёка адлеглых мясцовасьцях шэсьць гадоў і больш даецца права пераводу ў вайсковыя часьці і установы, распаложаныя у мясцовасьцях па іх выбару, з выдачай усіх выглядаў падмогаў і узнагарады, прадгледжаных арт. 1-ым гэтае пастановы.

4. Паказаныя у п.п. „а“ і „б“ арт. 1-га і п.п. „а“ і „б“ 3 арт. дадатковыя грашовыя выдачы пры вылічэньні сярэдняга заробку у разьлік ня прыймаюцца.

5. Асобы, праслужыўшыя у далёка адлеглых мясцовасьцях меньш аднаго году і кінушыя службу па уласнаму жаданьню, павінны вярнуць у чырвоным вылічэньні атрыманую імі узнагараду.

6. Гэта пастанова не пашыраецца на мясцовых нараджэнцаў, за выключэньнем тых з іх, якія ня жылі у родным краю ня меньш 3-х апошніх гадоў.

7. Дзеля знаходзячыхся на службе у далёка адлеглаых мясцовасьцях вылічэньне тэрмінаў, якія даюць права на паказаныя у п.п. „а“, „б“, „д“ і „е“ арт. 3 льготы і перавагі робяцца з дню уступленьня у сілу гэтае пастановы.

8. Далёка адлеглымі мясцовасьцямі Саюзу ССР лічуцца:

а) аўтаномныя рэспублікі: Дагестанская (апрача м. Пятроўска і м. Дэрбента), Туркестанская (апрача г.г. Ташкенту, Самарканду і Паўтарацка), Якуцкая, Башкірская (апрача г. Уфы), Кіргізская (апрача г.г. Арэнбурга і Уральска), Буратмангольская і Карэльская (апрача г. Петразаводзку;

б) аўтаномныя краіны: Комі, Ойратская;

в) губэрні: Архангельская (апрача г. Архангельска, Халмагорскага і Шэнгурскага паветаў), Мурманская, Енісейская, Тюменская (апрача г. Тюмені), Алтайская, Томская (апрача г. Томску), Іркутская, Нова-Мікалаеўская (апрача г. Нова-Мікалаеўска), Забайкальская, Амурская, Прыморская і Камчацкая;

г) Востравы Лядавітага і Ціхага океанаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

4 сьнежня 1923 г. Масква — Крэмль.

---

## 323. Аб дадатку арт. 4-га „Палажэньня аб нетрах зямлі“.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

У арт. 4-ым „Палажэньня аб нетрах зямлі і распрацоўцы іх“ ад 13 ліпеня 1923 году („Весьнік Раб. і Сялян. Ураду Саюзу ССР“ 1923 г. № 1, арт. 19), пасьля слова „НКУС“ дадаць словы „НКАсьветы“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

14 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 291 „Известия“ ЦВК Саюзу ССР ад 20 снежня 1923 г.

---

## 324. Аб выпуску у зварот грашовых знакаў узору 1923 г. вартасьцю у 15000 р. з надпісамі на мовах, паказаных у арт. 34 Констытуцыі Саюзу ССР.

Дзеля патрэбнасьці гандлёва прамысловага звароту у грашовых знаках больш буйных купюр, у параўнаваньні з выпушчанымі да гэтага часу, Цэнтральны Выканаўчы

Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляюць:**

1. Выпусьціць у зварот грашовыя знакі узору 1923 г., вартасьцю у 15000 рублеў, з надпісамі на наступных мовах, паказаных у арт. 34-ым Конституцыі Саюзу ССР: расейскай, украінскай, беларускай, армянскай, грузінскай і тюрка-татарскай.

2. Памянёныя у арт. 1-ым грашовыя знакі ходзяць на роўных падставах з грашовымі знакамі узору 1923 г., выпушчанымі згодна пастановаў ад 24 кастрычніка 1922 г., Зборн. Зак. РСФСР, 1922 г. № 11, арт. 867), 9 лютага (Зборн. Зак. РСФСР, 1923 г. № 12, арт. 157), 29 верасьня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 8, арт. 232) і 23 лістападу 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 9, арт. 263).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні ЦВК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

18-га сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 290 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 19 снежня 1923 г.

---

## 325. Аб зьіначаньні артыкулаў, 4, 5 і 17 статуту аб дзяржаўным гэрбавым зборы.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік **пастанаўляюць:**

**А.** Арт. арт. 4, 5 і 17 Статуту аб дзяржаўным гэрбавым зборы (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР, № 5, арт. 114) выкласьці у наступнай рэдакцыі:

Арт 4. Просты гэрбавы збор устанаўліваецца чатырох разрадаў у наступных цьвёрдых стаўках у чырвоным вылічэньні: 1 р. 65 кап., 1 р. 15 кап. і 6 кап.

Пропорцыянальны гэрбавы збор устанаўліваецца трох разрадаў; у $1/2\%$, у $1/4\%$ і $1/10\%$ з сумы дакументу; павялічаныя аклады тых жа разрадаў у падвойнай вялічыне і зьніжаны аклад—у $0,15\%$ з сумы дакументу. Занясеньне дакумэнтаў да таго ці іншага разраду, па акладу простага ці пропорцыянальнага гэрбавага збору устанаўліваецца дадаваемым да гэтага статуту таблям (дадат. 1).

Арт. 5. Падлягаючыя выплаце сумы гэрбавага збору, выказаныя у чырвоным вылічэньні, выплачваюцца ці поўнасьцю банкавым і білетамі дзяржаўнага банку, ці банкавымі білетамі і савецкімі грашовымі знакамі адначасна, або поўнасьцю савецкімі грашовымі знакамі. Пры выплаце гэрбавага збору грашовымі знакамі поўнасьцю або часткаю падлягаючая ўнясеньню сума іх вызначаецца у дзень аплаты дакумэнту па апошнему абвешчанаму у месцы выплаты офіцыяльнаму курсу чырвонца.

Арт. 17. Сумы, належачыя па нарушэньням правілаў аб аплаце дакумэнтаў простым гэрбавым зборам, а роўна аб аплаце дакумэнтаў пропорцыянальным гэрбавым зборам, калі гэтыя дакумэнты зроблены у чырвоным вылічэньні, вылічаюцца у чырвонцах і выплачваюцца банкавымі білетамі ці савецкімі грашовымі знакамі; з пераводам чырвонца у дзень фактычнага спагнаньня па апошнему абвешчанаму у месцы спагнаньня офіцыяльнаму курсу. Сумы, належачыя па нарушэньням правілаў аб аплаце пропорцыянальным гэрбавым зборам дакумэнтаў, зробленых у савецкіх грашовых знаках, выказваюцца у чырвонцах па офіцыяльнаму курсу чырвонца дня утварэньня нарушэньня і спаганяюцца у савецкіх грашовых знаках па курсу чырвонца, абвешчанаму у дзень і ў месцы спагнаньня.

Увага 1. Па абкладваемым пропорцыянальным гэрбавым зборам дакумэнтам, зробленым у залатой ці замежнай валюце, сума дакумэнтаў пераводзіцца дзеля вылічэньня гэрбавага збору і штрафу, у чырвонцы па апошнім абвешчаным у дзень і у месцы утварэньня дакумэнту офіцыяльным курсам.

Увага 2. Несваечасова выплачаны збор і каштоўнасьць неправільна пагашаных гэрбавых марак выключаюцца з агульнай сумы спагнаньня.

**Б.** Пастановы Савету Працы і Абароны ад 31 жніўня 1923 году аб „узвышэньні ставак простага гэрбавага збору“ ад 14 верасьня 1923 г. аб „выказваньні ставак простага гэрбавага збору у чырвоным вылічэньні“ (Весьнік ЦВК. СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г. № 5, арт. 120 і 121) скасаваць.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

20 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 326. Аб складзе падатковых камісіяў.

Дзеля зьіначаньня арт. 11 і 12 палажэньня аб дзяржаўным прамысловым падатку ад 13-га студзеня 1923 году (Зборн. Зак. РСФСР 1923 г., № 5, арт. 89); прыстасаваньня да арт. 24 і арт. 25 зацьверджанага Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР 12-га лістападу 1923 г. палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Дзеля вылічэньня параўнаўчага збору у кожным падатковым вучастку утвараюцца пад старшынством фінансавага інспэктара вучастковыя падатковыя камісіі у складзе: двух прадстаўнікоў мясцовага выканаўчага камітэту, аднаго прадстаўніка мясцовага аб'яднаньня прафсаюзаў, аднаго прадстаўніка губэрскага (або падобнага яму) савету народнай гаспадаркі, або аддзелу мясцовай гаспадаркі, і двух сяброў з ліку плацельшчыкаў параўнаўчага збору.

2. Дзеля разгляданьня жальбаў плацельшчыкаў параўнаўчага збору утвараюцца губерскія (або падобныя ім) па прамысловаму падатку камісіі пад старшынством асобы, назначаемай належным выканаўч. камітэтам у складзе: загадчыка фінансавым аддзелам, загадчыка падатковым упраўленьнем, па аднаму прадстаўніку губэрскай эканамічнай нарады, а дзе іх няма—ад савету народнай гаспадаркі або аддзелу мясцовай гаспадаркі, ад губернскага (краіннага) суду і ад мясцовага аб'яднаньня прафсаюзаў, а так сама 2 сяброў з ліку плацельшчыкаў параўнаўчага збору.

3. Дзеля вылічэньня прыбыткова-памаентнага падатку у кожным падатковым вучастку утвараюцца пад

старшынством фінансавых інспэктараў вучастковыя па прыбыткова-памаентнаму падатку камісіі у складзе: аднаго прадстаўніка мясцовага выкан. камітэту, аднаго прадстаўніка мясцовага аб'яднаньня прафсаюзаў і двух сяброў ад плацельшчыкаў прыбыткова-памаентнага падатку.

Увага. Дзеля абкладаньня акцыянэрных таварыстваў (паявых таварыстваў) і крэдытных установаў органам народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даецца утвараць асобныя падатковыя камісіі, склад якіх і район дзеяў вызначаюцца інструкцыяй народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР.

4. На пастановы вучастковых па прыбыткова-памаентнаму падатку камісіяў і фінансавых інспэктараў плацельшчыкі могуць прынасіць жальбы у губэрскую (або падобную ей) па прыбыткова-памаентнаму падатку камісію. Апошняя утвараецца пад старшынством асобы, назначаемай выканаўчым камітэтам, у складзе загадчыка належным фінансавым аддзелам, загадчыка падатковым упраўленьнем, аднаго прадстаўніка савету народнай гаспадаркі, аднаго прадстаўніка губэрскага (падобнага яму) суду, двух прадстаўнікоў савету профэсыянальных саюзаў і двух сяброў з ліку плацельшчыкаў.

5. Разьвязкі губэрнскай камісіі па прамысловаму і па прыбыткова-памаентнаму падатку прызнаюцца канчатковымі і могуць быць абжальбаваны толькі ў выпадках нарушэньня закону у народны камісарыят грашовых справаў належнай саюзнай рэспублікі, разьвязак якога можа быць абжальбаваны у народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР.

6. Сябры вучастковых і губэрскіх (або падобных падатковых камісіяў з ліку плацельшчыкаў як прамысловага, так і прыбыткова памаентнага падатку назначаюцца губэрскім (ці адпаведным яму) выкан. камітэтам водлуг падачы належнага фінансавага аддзелу у наступным парадку:

а) у камісіях па прамысловаму падатку адзін з сяброў назначаецца з ліку кандыдатаў, пададзеных біржавымі камітэтамі, а дзе іх няма—коопэрацыйнымі арганізацыямі, а другі—з ліку кандыдатаў, пададзеных камітэтамі рыначных гандляроў або належнымі арганізацыямі;

б) у камісіях па прыбыткова-паментнаму падатку адзін з сяброў назначаецца губэрскім (або падобным яму) выканаўчым камітэтам па падачы належнага фінансавага інспэктара—дзеля вучасткавых камісіяў, і губерскага (або падобнага яму) фінансавага аддзелу—дзеля губэрскіх (або падобных ім) камісіяў; другі сябра назначаецца з ліку кандыдатаў, пададзеных біржавымі камітэтамі, а дзе іх няма—камітэтамі рыначных гандляроў або належнымі арганізацыямі.

Увага 1. Біржавыя камітэты, высоўваючы кандыдатаў у сябры падатковых па прамысловаму падатку камісіяў, абавязаны забясьпечыць прадстаўніцтва інтэрасаў коопэрацыі.

Увага 2. Сьпісы выбраных паказанымі арганізацыямі-кандыдатаў падаюцца у губэрскі (або падобны яму) фінансавы аддзел.

Увага 3. Арганізацыя прадстаўніцтва ад плацельшчыкаў на паказаных падставах ускладаецца на губэрскія (або падобныя ім) фінансавыя аддзелы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **Л. Енукідзе.**

21 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 293 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 22 сьнежня 1923 г.

---

## 327. Аб з'іначаньні рэдакцыі арт. 6-га палажэньня аб спагнаньні падаткаў і збораў.

Дзеля з'іначаньня арт. 6-га палажэньня аб спагнаньні падаткаў і збораў (Зб З. РСФСР 1922 г., № 44 арт. 550, Весьнік ЦВК, СНК і СПА, Саюзу ССР 1923 г., № 1, арт. 23), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

А. Выкласьці арт. 6 палажэньня аб спагнаньні падаткаў і збораў у наступнай з'іначанай рэдакцыі:

„Арт. 6. Як пройдзе абмяжаваны тэрмін плацяжу, аклад падатку ці збору, няўнесены органам, упаўнаважаным на прыём плацяжоў, пералічаецца у нядоімку, якая у працягу першых двух дзён пасьля тэрміну можа быць ўнесена без налічэньня пені, а пачынаючы з 3-га дня—належыць выплаце з налічэньне пеніу вялічыні $^1/_4\%$ за кожны з першых 15-ці дзён прасрочкі і $^1/_2\%$ за кожны наступны дзень прасрочкі па дзеень выплаты уключна.

Сума нядоімкі, а гэтак сама пеня вылічаюцца у чырвонцах і спаганяюцца чырвонцамі ці грашовымі знакамі па курсу чырвонца, абвешчанаму у месцы і на дзень выплаты".

Б. Устаноўлены у разьдзеле „А" гэтае пастановы парадак налічэньня пені пашыраецца і на нядоімкі за мінулы час, нявыплачаныя да дню уступленьня ў моц гэтае пастановы.

В. Гэта пастанова ажыцьцяўляецца па тэлеграфу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні ЦВК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

21 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 293 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 22 сьнежня 1923 г.

---

## 328. Аб забароне перайменаваньня населеных пунктаў, у якіх ёсьць почт.-тэлеграфныя установы.

Каб спыніць перашкоды, якія зьяўляюцца у працы урадавых органаў перанайменьня насельніх пунктаў, а таксама каб не зрабіць лішніх выдаткаў, зьвязаных з перанайменьнямі, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Перанайменьні чугуначных станцыяў, а таксама насельных пунктаў, якія маюць пачтово-тэлеграфныя установы як агульнае правіла на абшары (тэрыторыі) усяго Саюзу ССР забараніць.

Адступленьні ад гэтага правілу могуць быць дапушчаны толькі у выключных выпадках і ня начы, як з

асобнага у кожным асобным выпадку дазваленьня Прэзыдыуму Цэнральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

2. Даручыць цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік ускласьці на адпаведныя народныя камісарыяты нагляданьне за выкананьнем гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

28 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 271 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 27 лістападу 1923 г.

## 329. Аб рэарганізацыі спажывецкай коопэрацыі на пачатках дабравольнага сяброўства.

У мэтах далейшага разьвіцьця спажывецкай коопэрацыі у умовах новай эканамічнай палітыкі, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Адмяніць абавязковую прыпіску грамадзян да адзіных спажывецкіх таварыстваў. Уступленьне у сябры спажывецкіх таварыстваў, роўна, як выход з іх ад гэтага часу становяцца дабравольнымі.

2. Прапанаваць цэнтральным органам спажывецкай коопэрацыі саюзных рэспублік прыняць неабходныя падгатоўчыя меры да рэарганізацыі спажывецкай коопэрацыі на новых пачатках дабравольнага сяброўства.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

28 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 298 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 30 сьнежня 1923 г.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Народных Камісараў
## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**330.** **Аб парадку спагнаньня сумаў гэрбавага збору і штрафу, належачых па нарушэньнях правілаў аб гэрбавым зборы.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Па нарушэньням правілаў аб гэрбавым зборы зробленым да ўвядзеньня ставак гэрбавага збору у чырвоным вылічэньні, належачая спагнаньню сума збору і штафу пераводзіцца у чярвонцы, а за час, які папяраджае устанаўленьне курсу чырвонца, пераводзіцца у залатыя рублі, па сярэдняму арытмэтычнаму курсу котыравальнай камісіі таго месяцу, у працягу якога зроблена нарушэньне.

Па нарушэньням, зробленым пасьля увядзеньня ставак гэрбавага збору у чырвоным вылічэньні, належачая да спагнаньня сума збору і штрафу вызначаецца у чырвонцах па курсу дня утварэньня нарушэньня.

**2.** Выплата належачай да спагнаньня сумы, выказанай у чырвонцах, робіцца чырвонцамі або грашовымі знакамі па курсу чырвонца, абвешчанаму у месцы і на дзень выплаты, выплата сумы, выказанай у залатых рублёх, робіцца грашовымі знакамі па абвешчанаму на дзень выплаты курсу котыравальнай камісіі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
13 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**331.** **Аб вялічыні надбавак на прыбытак мясцовых саветаў да акладаў прыбыткова-памаентнага падатку на 1923—24 бюджэтны год.**

На падставе п. „в“ арт. 37 часовага палажэньня аб мясцовых фінансах ад 12 лістападу 1923 г. Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Устанавіць на 1923—24 бюджэтны год надбаўку на прыбытак мясцовых саветаў у вялічыні 25%, да акладаў прыбыткова-памаентнага падатку, устаноўленых у па ажэньні аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку ад 12 лістападу 1923 г, (пастановы III сэсіі ЦВК Саюзу ССР, арт. IV, п. б).

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
20 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.
Рэспублікавана у № 288 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 16 сьнежня 1923 г.

---

**332.** **Аб дачы дзяржаўн. трэсту „Русские самоцветы“ выключнага права на здабычу ізумруднага сыр'я і аб забарона вольнага звароту ізумруднага сыр'я і паўфабрыкатаў у межах Саюзу ССР.**

Савет Народных Камісраў **пастанаўляе:**

**1.** Даць дзяржаўн. трэсту „Русские самоцветы“ выключнае права на здабычу ізумруднага сыр'я на ўсім тэрыторыі Саюзу ССР.

**2.** Дазволіць трэсту „Русские самоцветы“ весьці гандлёвыя операцыі па экспорту на замежны рынак ізумруднага сыр'я і гранёных ізумрудаў праз гандлёвы апарат НКЗГ без камандзіраваньня асобных прадстаўнікоў у склад гандлёвых прадстаўніцтваў.

**3.** Даць трэсту „Русские самоцветы“ права з захаваньнем дзеючых законапалажэньняў, прыцягваць старанькаў да справы распрацоўкі ізумрудных копяў, узлажыўшы на яго разам з тым арганізацыю мерапрыемстваў па змаганьню з злачынствамі на копях.

**4.** Забараніць вольны зварот у межах Саюзу ССР ізумруднага сыр'я і паўфабрыкатаў, даўшы трэсту „Русские самоцветы“ выключнае права скуплі пазначанага сыр'я і паўфабрыкатаў.

**5.** Нарушэньне правілаў, устаноўленых гэтаю паста-

новаю, караецца водлуг належных артыкулаў карачынных кодексаў саюзных рэспублік.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
21 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 333. Аб звольненьні ад дзяржаўнага прамысловага падатку опэрацыяў дабравольнага флёту.

Савет Народных Камісараў **пастанаўляе:**

1. Зволіць ад дзяржаўнага прамысловага падатку судновыя опэрацыі, якія робяцца дабравольным флётам па транспартыраваньню пасажыраў і грузаў на ўласных суднах па марскіх шляхох.

Увага. Усе прамысловыя прадпрыемствы абслугоўваючыя непасрэдна і выключна патрэбы дабравольнага флёту (майстэрні караблёў, докі і г. п.) гэтак сама звальняюцца ад прамысловага падатку.

2. Паказаная у арт. 1 льгота не пашыраецца на ўсе опэрацыі Дабравольнага Флёту, якія носяць тавар-на-гандлёвы або камісіёны характар (транспартна-камісіёныя, экспэдытарскія, тавараскладачныя, гандлёвыя і г. п.), а таксама на пагрузачна-разгрузачныя опэрацыі на суднах, не належачых дабравольнаму флёту.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гароуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
6 сьнежня 1923 г. Масква — Крэмль.

---

## 334. Аб вызначэньні падлягаючае абкладаньню мытаю колькасьці вывожваемых за кардон лясных матар'ялаў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дабавіць да арт. 14 мытнага тарыфу па адпускному гандлю (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 20, арт. 242) увагу наступнага зьместу:

„Увага. Адтрымліваючаму тавар дазваляецца абвяшчаць колькасьць вывожваемых лясных матар'ялаў, паказаных у арт. 14 у кубічных футах, прычым 1 кубічны фут дрэва (без пустотаў) хваёвых пародаў прыраўніваецца 0,9 пуду, 1 кубічны фут дрэва (без пустотаў) пародаў ліставых прыраўніваецца 1,1 пуду і 1 кубічны фут дрэва (без пустотаў) мяшаных пародаў прыраўніваецца 1 пуду. Роўным чынам дазваляецца мытніцам. у тым разе, калі спаткаюцца перашкоды дзеля узважваньня вывожваемых лясных матар'ялаў, вызначыць пры абгляданьні тарыфную калькасьць водлуг аб'ёму, кіруючыся вышэй паказаным разлічэньнем.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
6 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 335. Аб бязмытным пропуску з-за кардону хініну.

Савет Народных Камісмраў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Выкласьці п. 7 літ. „а“ арт 112 і п. 1 літ. „б“ арт. 113 мытнага тарыфу для прывазных тавараў па эйрапейскаму гандлю (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., арт. 259 дадатак) у наступнай рэдакцыі:

„арт. 112 п. 7 літ. „а“ хінін—бязмытна“,
„арт. 113 п. 1 літ. „б“ хінін—бязмытна“.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
6 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 336. Аб абкладаньні прамысловым падаткам опэрацыяў о ганаў НКШЗ па пакупцы і прадажы на камісёных пачатках грузаў, знаходзячыхся на шляхох зносінаў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Утрымліваемые органамі НКШЗ прадпрыемствы (гандлёвыя агентуры, іх аддзяленьні і г. д.) дзеля спаўненьня апэрацыяў па пакупцы і прадажы на камісіёных пачатках грузаў, знаходзячыхся на шляхох зносінаў, абкладваюцца патэнтным зборам па п. 11, разр. IV і п. 9 разр. V дадат 2-га да Палажэньня аб дзяржаўным прамысловым падатку (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 5 арт. 89).

2. Абкладаньне паказаных опэрацыяў параўнаучым зборам робіцца па таму месцу, дзе знаходзяцца кіраўніцтвы гандлёвымі агентурамі у парадку часовых правілаў 18 студзеня 1923 г. (дадатак 7 да палажэньня аб дзяржаўным прамысловым падатку).

3. НКГС Саюзу ССР даручаецца разам з НКШЗ выдаць інструкцыю аб ужываньні гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Союзу ССР* **Л. Фоціева.**
8 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 337. Аб спыненьні прыёму натуры дзеля выплаты адзінага с.—г. падатку за 1923—24 бюджэтны год і аб перадачы НКГС падатковага апарату НКХ.

У мэтах скарачэньня выдаткаў па збору натуральнай часткі адзінага с.—г. падатку за 1923—24 бюджэтны год,—Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. З 1-га студзеня 1924 г. спыніць на ўсім абшары Саюзу ССР прыём натуры дзеля выплаты адзінага с.—г. падатку за 1923—24 бюджэтны год.

Увага 1. Народным камісарыятам грашовых справаў саюзных рэспублік водлуг улагоджаньня с НКХ памянёных рэспублік даць права у залежнасьці ад ходу паступленьня натуры спыніць прыём яе і да 1-га студзеня 1924 году.

Увага 2. Даць НКГС саюзных рэспублік права пахадатайніцтву месцаў дапушчаць у межах адлічаньня на мясцовыя патрэбы, і ў далейшым прыём натуры з аднясеньнем выдаткаў па спагнаньню яе на мясцовыя сродкі.

2. Спагнаньне застаўшайся часткі адзінага падатку грашмі і аблігацыямі хлебнай пазыкі ускласьці на НКГС Саюзу ССР, які ажыцьцяўляе паказаную задачу праз НКГС саюзных рэспублік і іх мясцовыя органы.

3. Падатковы апарат органаў харчаваньня перадаць фінорганам з адносячайся у падатковай працы маемасьці і матар'ялямі, у парадку увагі 2-й да гэтага артыкулу.

Увага 1. Падатковыя п/аддзелы губэр. кам. харчаваньня, увесь апарат павят. каміт. харчаваньня і валасная падатковая інспэктура, у тым ліку павят. камісары харчаваньня і іх намесьнікі, губэрскія і павятовыя інспэктары і іх памочнікі перадаюцца у поўны загад органаў НКГС.

Увага 2. Перадача падатковага апарату з неабходнай маемасьцю і матар'ялямі робіцца на падставе асобнага улагоджаньня паміж НКХ і НКГС Саюзу ССР.

4. Тэхнічна-прыёмны апарат органаў харчаваньня у раёнах, якія спыняюць прыём натуры, падлягаюць паступовай ліквідацыі у парадку зацьверджаемам СПА па згоднай падачы НКГС і НКХ Саюзу ССР. Элеватары і іншыя дзяржаўныя будынкі дзеля хаваньня збожжа агульнасаюзнага значаньня застаюцца у непасрэдным веданьні НКХ Саюзу ССР. Да устанаўленьня СПА парадку ліквідацыі тэхнічна-прыёмачнага апарату мясцовым органам забараняецца рабіць яе.

5. НКГС разам з НКХ Саюзу ССР даручаецца выдаць у трохдзённы тэрмін інструкцыю па ужываньню гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

11 сьнежня 1923 г. Масква — Крэмль.

Рэспублікавана у № 2-8 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 16 сьнежня 1923 г.

## 338. Аб адмене пастановы СНК РСФСР ад 6 сакавіка 1923 г. і адпаведных законаў іншых саюзных рэспублік аб утварэньні асобнага фонду дзеля преміраваньня супрацоўнікоў НКРСІ.

Дзеля звальненьня рабоча-сялянскай інспэкцыі ад усяго бягучага кантролю і ўсей наступнай дакумантальнай рэвізіі дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Пастанову СНК РСФСР ад 6 сакавіка 1923 году (З. З. РСФСР 1923 г., № 20, арт. 241) і адпаведныя законы іншых саюзных рэспублік аб утварэньні асобнага фонду прэміраваньня супрацоўнікаў НКРСІ адмяніць з дня уступленьня ў моц пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 6 верасьня 1923 г. аб звальненьні рабоча-сялянскай інспэкцыі ад шэрагу належачых ёй функцыяў Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 6, арт. 125).

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

11 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

## 339. Аб адміністратыўных спагнаньнях за нарушэньне правілаў і інструкцыяў аб парадку лятаньня грамадзянскіх паветраных суднаў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Даць галоўнаму начальніку рабоча-сялянскага чырвонага паветранага флёту права накладваць у адміністратыўным парадку спагнаньня на непасрэдных нарушыцеляў выдаваемых галоўным упраўленьнем рабоча-сялянскага чырвонага паветранага флёту на падставе дзеючых законаў аб паветраным руху, правілаў і інструкцыяў аб парадку лятаньня грамадзянскіх паветраных суднаў (правілаў рэгістрацыі паветраных суднаў, правілаў аб пасьведчаньнях аб прыгоднасьці паветраных суднаў, аб агнях, аб правілах лятаньня, аб пісаньні кнігаў паветраных суднаў і г. д.).

2. Адміністратыўныя спагнаньні, памянёныя у арт. 1-м, устанаўліваюцца, як штраф, да 10 рублёў у чырвоным вылічэньні.

3. У тым разе, калі інструкцыі, паказаныя у арт. 1-м гэтае пастановы, будуць нарушаны, органамі галоўпаветрфлёту састаўляецца пратакол, які падпісваецца упаўнаважанаю на састаўленьне яго урадоваю асобаю, роўным чынам нарушыцялем і сьведкаю.

Увага. У тым разе, калі нарушыцель адмовіцца падпісаць пратакол, аб гэтай адмове запісваецца у пратакол з паказаньнем матываў адмовы. Адмова нарушыцеля падпісаць пратакол ня спыняе паказанага у арт. 4-м напрамку пратаколу.

4. Пратакол зараз жа падаецца у інспэкцыю грамадзянскаго паветранага флёту, дзе робіцца пастанова аб налажэньні на нарушыцеля спагнаньня у адміністратыўным парадку, якое уваходзіць у моц пасьля зацьверджаньня яго галоўным начальнікам рабоча-сялянскага чырвонага паветранага флёту.

Увага. У тых выпадках, калі пратаколам устаноўлена дзеяньне падлягаючае карачынаму абвінавачаньню, справа перадаецца у адпаведны суд.

5. Пры накладаньні спагнаньняў у адміністратыўным парадку патрэбна спаўненьне наступных правілаў:

а) пастанова павінна мець яснае паказаньне на асобу нарушыцеля і зробленае ім нарушэньне, а гэтак сама вялічыню караньня;

б) спагнаньне у адміністратыўным парадку можа быць накладзена у працягу аднаго месяцу з дня выяўленьня нарушэньня; пасьля таго, як прайшоў вызначаны тэрмін, нарушыцель можа быць абвінавачан судом;

в) калі да накладаньня спагнаньня у адміністратыўным парадку паказанае нарушэньне было прынята судом дзеля разгляданьня, дык нарушыцель ня можа падпадаць спагнаньню за тое ж дзеяньне у адміністратыўным парадку.

6. Пастанова аб накладваньні адміністратыўнага спагнаньня павінна быць выкладзена на паперы і падана асобе, якая падпадае пад спагнаньне.

7. Асоба падпаўшая пад спагнаньне у адміністратыўным парадку може абжалаваць пастанову аб накладаньні спагнаньня у РВС Саюзу ССР.

Падача жалабы не затрымоўвае выкананьня.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

11 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

**340.** **Аб парадку передачы галоўным паветраным упраўленьнем флётам таварыству прыхільнікаў паветранага флёту самалётаў, нягодных дзэля працы у чырвоным паветраным флёце і належачых да тыпаў, зьнятых з узброеньня.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Галоўнаму упраўленьню рабоча-сялянскага чырвонага паветранага флёту дазваляецца перадаваць дзеля эксплёатацыі таварыству прыхільнікаў паветранага флёту Саюзу ССР і яго мясцовым аддзелам і арганізацыям самалёты (з неабходнымі запаснымі часткамі і прыладамі), нягодныя дзеля працы у чырвоным паветраным флёце і належачыя да тыпаў, зьнятых з узброеньня. Парадак учоту і эксплёатацыі гэтых самалётаў устанаўліваецца галоўным упраўленьнем рабоча-селянскага чырвонага паветранага флёту.

**2.** За падачу паказаных у арт. 1-м самалётаў галоўпаветрафлёт мае права спаганяць компэнсацыю у адпаведнай вялічыні. Паказаная компэнсацыя павінна складацца пераважна у спаўненьні ТППФ Саюзу ССР, яго аддзеламі і арганізацыямі працы па пабудоўцы і абсталяваньню аэрадромаў, пасадачных пляцовак і іншых пабудоваў, адносячыхся да зямной арганізацыі паветранага шляху. У выпадку немагчымасьці або нэмэтазгоднасьці спагнаньня кампэнсацыі паказанага роду, галоўпаветрафлёту даецца права замяніць яе грашовай компэнсацыяй. Грашовая компэнсацыя ідзе у загад галоўпаветрафлёту і выдаткуецца ім на вытвор працы па сартыроўцы і разборцы зьнятай з узброеньня авіацыйнай маемасьці.

**3.** У выпадку абвешчаньня агульнай або часткою мабілізацыі галоўпаветрафлёт мае права патрабаваць звароту пераданых у ТППФ Саюзу ССР, яго аддзелы і арганізацыі самалётаў.

**4.** У мэтах падняцьця авіацыйнай культуры, галоўпаветрафлёту даецца права перадаваць узоры зьнятай з узброеньня і нягоднай дзеля эксплёатацыі маемасьці у музэі, навуковыя установы і арганізацыі ТППФ дзеля зьберагаеньня і дэманстраваньня. У выключных выпадках такія перадачы могуць рабіцца безнаградна. Каштоўнасьць перадаваемай згодна гэтаму артыкулу маемасьці да моманту перадачы не павінна перавышаць у кожным асобным выпадку 300 рублёў золатам.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюза ССР* **Л. Фоціева.**

11 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**341.** **Аб пашырэньні на увазімыя з Уранхайскага краю тавары мытнага тарыфу дзеля тавараў, ўвазімых праз мяжу з Манголіяй.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Пашырыць на тавары, якія ўвозяцца у Саюз ССР з Уранхайскага краю дзейнасьць мытнага тарыфу дзеля тавараў, якія ўвозяцца праз мяжу з Манголіяй, зацьверджанага СНК Саюзу ССР 16-га кастрычніка 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 8, арт. 235).

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

15 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

**Распублікавана у № 298 „Известия“ ЦВК Саюзу ССР ад 30 сьнежня 1923 г.**

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Працы і Абароны
## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**342.** **Аб мытах і зборах, спаганяемых пры выкананьні справаў у арбітражных камісіях.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Пры выкананьні справаў у арбітражнай камісіі пры СПА, арбітражных камісіях пры эканамічных нарадах саюзных рэспублік і мясцовых арбітражных камісіях спаганяюцца: а) судзебная мыта, б) гэрбавы збор, в) канцэлярскі збор, г) зборы на папаўненьне стратаў па выкананьню справаў.

2. Судзебная мыта у вялічыні аднаго адсотку з кошту іску спаганяецца з кожнае іскавае заявы, як першапачаткавае, гэтак і сустрэчнае.

Заявы аб уступу у справу трэціх асобаў аплачваюцца судзебнаю мытаю толькі у тым разе, калі трэція асобы выступаюць у судзе з самастойнымі іскавымі заявамі.

3. Судзебная мыта з жалабаў на пастанову мясцовых арбітражных камісіяў, якія падаюцца у вышэйшыя інстанцыі, спаганяюцца у вялічыні паўадсотку з абгаворваемае у жалабе сумы.

4. Паісках, вызначыць кошт якіх у час іх падачы цяжка, судзебная мыта уносіцца у вялічыні 10 руб. у чырвоным вылічэньні, а па справах, ідучых у губэрскія арбітражныя камісіі у вялічыні 2 рублёў у чырвоным вылічэньні, але пазьней спаганяецца на падставе артыкулаў 2 і 3 гэтае пастановы не хапаючая сума мытаў, памяркоўна кошту іску, устаноўленаму арбітражнай камісіяй у працягу выкананьня справы або пры яе развязку.

5. Гэрбавы збор спаганяецца водлуг правілаў статуту аб гэрбавым зборы.

6. Канцэлярскі збор спаганяецца у вялічыні 10 капеяк у чырвоным вылічэньні за старонку у 25 радкоў з розных папераў, якія выдаюць арбітражныя камісіі па просьбе бакоў, як: копіі судзебных папераў, справак, выканаўчых лістоў, пасьведчаньняў і г. д. старонкі, якія маюць меней 25 радкоў, аплачваюцца як поўныя старонкі.

7. Судзебныя мыты, гэрбавы і канцэлярскі збор не спаганяюцца з дзяржаўных прадпрыемстваў і установаў, звольненых ад выплаты прамысловага падатку.

8. Зборы па выкананьню справаў дзеля выкліканьня бакоў, сьведкаў і экспэртаў, узнагароджэньне апошніх, праезд сяброў камісіі дзеля абгляданьняў на месцы і іншыя выдаткі выплачваюцца бакамі наўперад у вялічыні, адпавядаючай іх сапраўднай патрэбе.

9. Узнагароджэньне экспэртаў вызначаецца арбітражнымі камісіямі пасьля спаўненьня ускладзеных на іх абавязкаў.

10. Звыш паказаных у папярэдніх артыкулах судзебных стратаў можа быць спагнана, водлуг арт. 11, узнагароджэньне за вядзеньне справы у вялічыні 2% кошту іску, але ня звыш 100 чырвонцаў.

11. Судзебныя і за вядзеньне справы страты ускладваюцца дзеля карысьці ісца на адпаведаючы бок пропарцыянальна вялічыні іскавых вымаганьняў, здавальняемых пастановаю арбітражнай камісіі. Адпаведаючы бок мае права на узьмяшчэньне памянёных стратаў пропорцыянальна долі іску, у якой арбітражнай камісіяй адмоўлена ісцу.

12. Арбітражным камісіям, як адступаньне ад папярэдняга артыкулу, даецца права ускласьці на адзін бок памянёныя у гэтым артыкуле страты поўнасьцю або у большай частцы, чым было б пры пропорцыянальным разьмеркаваньні стратаў.

Памянёнае адступаньне ад пропорцыянальнага разьмеркаваньня стратаў павінна быць, ува усякім асобным выпадку, мотывіравана у пастанове арбітражнай камісіі.

13. У ва усім іншым ужываюцца адпаведныя пастановы грамадзянскіх судзебных кодэксаў саюзных рэспублік водлуг належнасьці.

14. Арбітражнай камісіі пры СПА Саюзу ССР даручаецца, разам з НКГС, апрацаваць праз два тыд-

ні інструкцыю аб парадку спагнаньня судзебных мытаў арбітражнымі камісіямі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
3 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 343. Палажэньне аб часовым кіраўніцтве Акц. таварыства „Касьпійскае Параходзтва".

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Раней, чым ажыцьцёвіць усе мерапрыемствы, зьвязаныя зператварэньнем дзяржаўнага „Касьпійскага параходцтва" у акцыанэрнае таварыства, згодна пастановы СПА ад 7 верасьня 1923 г. („Изв. ЦВК Саюзу ССР" № 203, ад 9 верасьня) назначаецца водлуг улагоджаньня НКШЗ і ВСНГ часовае кіраўніцтва, на якое ускладаецца абавязак кіраваньня бягучымі справамі і падгатоўка флёту да будачай навігацыі.

2. Дзеля выкананьня ускладзеных на яго абавязкаў часовае кіраўніцтва мае права:

а) прыёму і звальненьня рабочых і служачых і заключэньня колектыўных і асабовых працоўных умоваў, згодна дзеючых законаў і загадаў;

б) набываньні і адбіраньні усякага гатунку маемасьці у парадку, устаноўленым дзеля дзяржорганаў;

в) утварэньні банкавых, вэксалёвых (учот вэксаляў, выдача вэксаляў) і усякіх іншых крэдытовых опэрацыяў у крэдытовых установах Саюзу ССР і закардонам;

г) заключэньні усякага гатунку умоваў і утварэньне актаў, у тым ліку выдачы даручэньняў;

д) утварэньне кантор, аддзяленьняў, агенстваў і прадстаўніцтваў;

е) непасрэдных зносінаў з усімі органамі, установамі і асобамі Саюзу ССР па усіх справах „Касьпійскага параходцтва".

ж) вытварэньне ўсіх наогул законам дазволеных опэрацыяў, накіраваных да дасягненьня задачаў „Касьпійскага параходцтва".

Увага. За даўгі „Касьпійскага параходцтва" адказвае толькі маемасьць, знаходзячаяся у яго вольным загадзе, згодна арт.арт. 19 і 22 грам. кодэксу РСФСР і адпаведных артыкулаў грамадзянскіх кодэксаў іншых саюзных рэспублік.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкау.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
8 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.
Распублікавана у № 262 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 18 сьнежня 1923 г.

---

## 344. Аб статыстычным учоце пажараў.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Абавязаць галоўнае кіраўніцтва дзяржаўнага страхаваньня увясьці з 1-га студзеня 1924 г. статыстычны учот усіх пажараў, якія бываюць на абшары Саюзу ССР.

2. Ажыцьцяўленьне статыстычнага учоту, прадгледжанага арт. 1-ым гэтае пастановы, ускласьці на адпаведныя органы Дзяржстраху і ЦСУ у Саюзных Рэспубліках.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
8 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 345. Аб дачы кіраўніцтву Закаўкаскіх чыгунак права устанаўліваць мясцовыя тарыфы на усім працягу гэтых дарогаў.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Даць кіраўніцтву Закаўкаскіх чыгунак права устанаўліваць, водлу згоды з вышэйшай эканамічнай нарадай Закаўказьзя, мясцовыя тарыфы на усім працягу названых дарогаў дзеля усіх грузаў, за выключэньнем грузаў экспортнага і транзітнага характару, номэнклятура якіх устанаўліваецца тарыфным камітэтам пры НКШЗ.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
8 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 346. Аб парадку вытвору фото і кіноз'ёмак воінскіх частак і войсковых пабудаваў.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Забараніць пад страхам карачыннай адпаведнасьці вытвор фотографічных і кінематографічных з'ёмак воінскіх частак, складаў, будынкаў, крапасных пабудоваў, лагераў, вайсковых суднаў, вайсковых партовых пабудоваў і маючых стратэгічнае значаньне тэхнічных пабудоваў чыгунак без адумысловага на гэта дазволу палітычнага упраўленьня РВС Саюзу ССР або пад'уладных яму органаў.

**2.** Даручыць РВС Саюзу ССР выдаць падрабязную інструкцыю па ужываньню гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
14 сьнежня 1923 г. Масква - Крэмль.
Распублікована у № 291 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 20 сьнежня 1923 г.

---

## 347. Аб прадстаўніцтве дзяржаўнага гандлю медыкаментамі у Лёндане.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Артыкул 11 разьдзелу А пастановы СПА ад 18 красавіка 1923 г. аб устанаўленьні сьпісу вытворчых дзяржаўных прадпрыемстваў і іх аб'яднаньняў, маючых права вясьці экспортна—імпортныя опэрацыі на замежных рынках (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 32, арт. 358) скласьці у наступнай рэдакцыі:

11. Дзяржаўны гандаль медыкаментамі (НКАЗдароўя)—імпорт і экспорт (водлуг адумысловасьці) з аддзяленьнямі у Бэрліне і Лёндане.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
14 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 348. Аб устанаўленьні тарыфу на перавозку данецкага вугля на Петраград.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе**.

Дзеля павагонных перавозак данецкага вугля у Петраград тарыф устанаўліваецца $^1/_{125}$ кап. 3 пуду—вярсты, а дзеля перавозак маршрутамі, фарміруемымі з разьлічаньня нагрузкі у 40.000 пуд. на пагрузачных пунктах Донбасу водлуг паказаньня гарняцка-завадзкога камітэту—у $^1/_{150}$ кап. з пуду—вярсты, з тым, што на топліва адпушчаемае НКШЗ дзеля выкананьня перавозак у колькасьці 10% ад перавазімага маршрутным парадкам вугля, пашыраецца істнуючая паміж НКШЗ і донвуглём згода аб прэміі за зьверхпляновыя перавозкі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
28 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 349. Аб спыненьні спагнаньня працгужпадатку за 1923 год на абшары Горскай Рэспублікі.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **постанаўляе**:

1. Спагнаньне працгужпадатку за 1923 год на абшары Горскай Рэспублікі—спыніць.
2. Нядоімкі па працгужпадатку, якія лічацца за насельніцтвам Горскай Рэспублікі—зьняць

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
28 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 350. Інструкцыя аб парадку рэгістрацыі гандлёвых кнігаў гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі, абавязанымі вясьці рахунковасьць водлуг сыстэмы падвойнае бухгалтэрыі.

На падставе арт. 6 пастановы СНК Саюзу ССР ад 18 верасьня 1923 г. аб абавязковым пісаньні гандлёвых кнігаў гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР № 6, арт. 152) Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе** зацьвердзіць ніжэйпаданую інструкцыю:

1. Гандлёвыя прадпрыемствы V разраду і прамысловыя не ніжэй VI разраду абавязаны падаваць кнігі „Галоўную“ і „Разьлічэньня“ дзеля рэгістрацыі да іх пачатку.

2. Рэгістрацыя гандлёвых кнігаў ускладаецца на прэзыдыум губэрскіх выканаўчых камітэтаў (або адпаведныя ім органы), а дзе захованы губэрскія (або адпаведныя ім) эканамічныя нарады—на памянёныя эканамічныя нарады.

3. Кнігі, паказаныя у арт. 1 павінны быць пранумэрованы, прашнурованы і прапячатаны праз накладаньне сургучовае пячаткі рэгіструючае установы па канцох шнурка.

4. Паметка аб рэгістрацыі робіцца на апошняй старонцы кнігі водлуг дададзенай да гэтае інструкцыі форме (форма № 1).

5) Рэгіструючая установа вядзе „Сьпіс гандлёвых кнігаў“ водлуг дададзенае да гэтае інструкцыі форме (форма № 2).

6. Рэгістрацыя павінна быць зроблена рэгіструючаю установаю не пазьней 3 дзён з дню падачы гандлёвых кнігаў да рэгістрацыі.

7. Рэгістрацыя кнігаў не абкладваецца ніякімі зборамі.

8. Памянёныя у арт. 1 прадпрыемствы, пачаўшыя кнігі да апублікаваньня гэтае інструкцыі, абавязаны падаць іх дзеля рэгістрацыі у месячны тэрмін з дню апублікаваньня гэтае інструкцыі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
28 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

### Форма № 1.

Паметка аб рэгістрацыі гандлёвых кнігаў.

У гэтай „галоўнай“ або „разьлічэньня“ кнізе (найменьне прадпрыемства) . . . . . . . . на 192 . . г. пранумэравана, прашнуравана і прапячатана . . . старонак. Кніга зарэгістравана у . . . . . . . . . Прэзыдыуме . . . . . . . . . . . Выканаў. камітэту . . . . . . . эканар. . . . . . . чісло . . . . месяцу . . . . году за № . . . .

Подпіс. Сургучовая пячатка на прашнуроўцы.

### Форма № 2.

Сьпіс гандлёвых кнігаў.

| Чарг. №№ | Год, месяц і чысло. | Найменьне прадпрыемства, кнігі якога рэгіструюцца. | Назван. кнігаў. | Подпісасобы падпіс паметку аб рэгістрацыі. | Увага. |
|---|---|---|---|---|---|

---

## 351. Аб спыненьні выдачы аблігацыяў у лік запрацаванае платы.

У дадатак і з'іначаньне пастановы СПА ад 3-га верасьня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР, № 6, арт. 182) аб разьмяркаваньні аблігацыяў дзяржаўнай 6% выйгрышнай пазыкі у лік запрацаванае платы рабочым і служачым, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе**:

1. Спыніць з 1-га студзеня 1924 г. выдачу аблігацыяў 6% выйгрышнай пазыкі у лік запрацаванае платы рабочым і служачым.
2. У іншых пунках пастанова СПА ад 3 верасьня 1923 г. пакінуць ў сіле.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
29 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

# У ДАДАТАК ДА ВЕСЬНІКУ

Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюву Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік апублікаваны:



ДАДАТКІ ДА ВЕСЬНІКУ РАЗСЫЛАЮЦЦА ПЕРАДПЛАТЧЫКАМ ВОДЛУГ АДУМЫСЛОВАЕ ПАДПІСКІ.

---


Главлит № 16.705. Тираж 5.000 экз.

Типография „Красный Пролетарий“ Изд-ва „Красая Новь“, Пименовская ул., 1/16.

# ПРЫМАЕЦЦА ПЕРАДПЛАТА

НА

# ВЕСЬНІК РАБОЧАГА І СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ,

## ДВУХТЫДНЁВЫ ОФІЦЫЯЛЬНЫ ЎРАДАВЫ ОРГАН, ЯКІ ПУБЛІКУЕ ЎСЕ ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ ЦВК, СНК І СПА САЮЗУ ССР.

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА ДА КАНЦА 1923 г.:

| | БЕЗ ПЕРАСЫЛКІ | З ПЕРАСЫЛКАЙ | АСОБНЫ НУМАР БЕЗ ПЕРАСЫЛКІ |
|---|---|---|---|
| для валвыканкамаў | 2 р. 25 к. зол. | 2 р. 40 к. зол. | 25 к. зол. |
| „ павятвыканкамаў | 4 р. 50 к. „ | 4 р. 80 к. „ | 50 к. „ |
| „ губвыканкамаў | 6 р. 30 к. „ | 6 р. 70 к. „ | 70 к. „ |
| „ іншых савецк., партыйн., проф., кооперат. арган. | 13 р. 50 к. „ | 14 р. 30 к. „ | 1 р. 50 к. „ |
| „ прыватных прадпрыем. і асоб | 15 р. 75 к. „ | 16 р. 80 к. „ | 1 р. 75 к. „ |

---

УСЕ ЗАКАЗЫ НА „ВЕСЬНІК ЎРАДУ“ НАКІРОЎВАЦЬ НА АДРАС:

МОСКВА, ТВЕРСКАЯ, 48.

ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ ЦИК СОЮЗА ССР и ВЦИК“.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

**НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ І ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.**

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыаграмамі і статыстычнымі довадамі*).
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР (*двухтыднёвік*). *№№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11 і 12.*

АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:
МАСКВА—КРЭМЛЬ—ЦВК САЮЗУ ССР.
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

ПЕРАДПЛАТА ПРЫМАЕЦЦА
ГАЛОЎНАЙ КАНТРАЙ „ВЕСЬНІКУ ЎРАДУ".
МАСКВА, Цьвярская, 48.
(ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ" ЦВК САЮЗУ ССР І ЎЦВК).